Год VI. Сьнежань № 13 (73).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі.“
ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1934 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 1

ЗЬМЕСТ № 13:



**ГРАМАДЗЯНЕ! Прысылайце адказы на пададзеныя ў № 12 нашай часопісі пытаньні ў справе зьместу „Шляху Моладзі!"**

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с. |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — І, і. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |


# „Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . 50 гр.

„ на паўгода. . . . . 1 зл.

„ на год . . . . . . 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1—3

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Год VI. | Вільня, Сьнежань 1934 г. | № 13 (73).

## ЗІМА.

Зіма, зіма нягодна,
Да нас ты ўжо прыйшла,
Халодна і марозна,
Дарогу замяла.
Усюды нема, глуха,
На полі сьнег ляжыць
І толькі завіруха
Мяцеліцай гудзіць.
Куды ні глянь — маўклiва,
Зямелька родна сьпіць,
Глядзець аж неяк крыва,
І сэрца на'т шчыміць...

Было калісь, вясною,
Пойдзеш ў зялёны гай, —
Вячэрняю парою
Дрыжыць ад песьні май.
Дзянёчак сьветла-ясны,
Кіпіць жыцьцё, бурліць,
А сёньня ён няшчасны
Бушуе і гудзіць,
Аднак-жа век ня будзе
Зіма ў нас панаваць —
Вясна узноў к нам прыдзе,
Красою будзе зьяць.

**Малады Дубок.**

## ВІХУРА.

Вецер злосны, бязлітосны,
Хмары гоне табуном,
Дзіка вые, сьнегам крые,
Прэцца ў сьцены на пралом.
Зьверам скача, стогне, плача,
Па будынках, па платох,
Па завулках, закатулках,
Па падстрэшшах, камінох.
Гне бярозы, ўплёўся ў лозы.
Бы малы яму прастор,

Ляціць далей з сьнежнай хваляй
Аж загнаўся ў цёмны бор:
Ў неспакоі, стогнуць хвоі,
Гнуцца станам да зямлі.
У'ецца бура, круціць кругам
Вылятае на палі.
Пенай белай, ашалела
Прэцца ў сёлы, у платы,
Каб занесьці ўсё, замесьці
Ды ўспакоіцца тады.

**А. К.**

* * *

Сэрца, сэрца, чым ты рада?
Чым узрушанае так?
Ўецца бельлю па над садам,
Гэта ж сьнег,—а не цьветняк.

І ня пухам лебядзіным
Усё усьпенілась кружком.
Сёньня ночкай асьвяньціла,
Зноў зямлю зіма сьняжком.

Ўсё пад белым, пышным сьнегам:
Вёска, хаты, сад кусты.
Сэрца, сэрца, кінь пацехі,
Сьнег сьцюдзёны, ня жывы.

**М. Машара.**

# † Śvietačy biełaruskaj kultury.

Biazlitasnaja śmierć sioleta niejak asabliva pryčapiłasia da nia tak hustych radoŭ biełaruskich kulturnych pracaŭnikoŭ, robiačy siarod ich vialikija prorvy. Jašče zdajecca nia ścichli žałobnyja zvany pa śv. p. praf. praf. M. Vieršyninu i M. Illaševiču, jak voś iznoŭ hromam pralacieli pa ŭsiej Biełarusi novyja žałobnyja viestki.

6 červienia sioleta, majučy 75 hadoŭ, u Leninhradzie razstaŭsia z hetym śvietam śv. p. **prafesar Branisłaŭ Epimach-Šypiła,** adzin z tvarcoŭ i pioner biełaruskaha adradžeńnia.

Radziŭsia Jon 4.IX.1859 h. u falv. Budźkaŭščyna, Lepalskaha pav., Vitebskaj hub.; pachodziŭ z drobnaj biełaruskaj šlachty. Himnaziju skončyŭ u Ryzie, ci ŭ Vitebsku, a vyšejšyja navuki ŭ Pieciarburzie — Historyka-Filolohičny Instytut. Byŭ vydatnym movaviedam. Znaŭ bolš 20 movaŭ, miž jakimi pradusim starahreckuju, łacinskuju, induski sanskryt i cely rad movaŭ narodaŭ sučasnych.

Movaznaŭstva daviało Šypiłu i da biełaruskaj śviedamaści. Biełaruskaściaj cikaviŭsia, što-raz hłybiej z jej paznavaŭsia, pačuvaŭsia biełarusam sam i biełaruskuju śviedamaść pašyraŭ siarod inšych užo budučy studentam, pryblizna ŭ 80-tych hadoch minułaha stahodździa.

Za časaŭ carskich byŭ doŭhija hady zastupnikam dyrektara Universyteckaj Pieciarburskaj Biblijateki, prafesaram hreckaj movy ŭ Duchoŭnaj Akademii i prafesaram łacinskaj movy na ahulna-navukovych Kursach Černiajeva ŭ tym-ža Pieciarburzie, a tak-ža dziejnym siabram Vitebskaj Navukovaj Archiŭnaj Kamisii.

Biełaruskuju pracu svaju pravodziŭ pradusim u troch kirunkach: źbiraŭ staradaŭnyja i ahułam redkija biełaruskija knižki, rukapisy i dakumenty, hadavaŭ, uśviedamlaŭ i arhanizawaŭ biełaruskuju studenskuju moładź, jakuju duža lubiŭ i jakoj zaŭsiody ščyrym sercam apiekavaŭsia i ŭrešcie arhanizawaŭ biełaruskuju kulturnuju, pradusim vydavieckuju pracu, zakładajučy vydavieckuju supałku ŭ Pieciarburzie „Zahlanie sonca i ŭ naša vakonca", jakaja tak šmat pałažyła zasłuh na biełaruskaj vydavieckaj nivie.

Pracavaŭ tak-ža śv. p. praf. Br. Epimach-Šypiła siarod biełaruskich rabotnikaŭ, uśviedamlajučy ich i apiakujučysia imi.

Rasiejskaja revalucyja na cely rad hadoŭ pracu praf. Br. Epimach-Šypiły spyniła. Ale kali tolki blisnuła nadzieja hetaj pracy ŭ Miensku, spatykajem jaho tam, jak navukovaha pracaŭnika śpiarša ŭ Instytucie Biełaruskaj Kultury (1925-28), a paśla ŭ Biełaruskaj Akademii Navuk (1928-30), dla jakoj jon pamiž inšym achviaravaŭ svaju duža cennuju 5-ci-tysiačtamovuju biblijateku.

Ale kali nadyjšła chvala praśledu kamunistami biełaruskaha nacyjanalnaha adradžeńnia, jana nia minuła tak-ža i Šypiły. 19 lipnia 1930 h. balšavickija ŭłady jaho aryštavali, pratrymali ŭ vastrozie dva miesiacy i vysłali ŭ Leninhrad. Tut, prabyŭšy na pravoch ssylnoha viaźnia, haładujučy i nosiačy na starečych plačach vośmy kryžyk svajho žyćcia, Šypiła 6.VI.34 adyšoŭ u śviet lepšy.

Br. Šypiła byŭ sučaśnikam i dobrym znajomym Fr. Bahuševiča, jaki stvaryŭ ahulnyja padstavy biełaruskaj nacyjanalnaj



Praf. Br. Epimach-Šypiła.

ideolohii i jošć patryarcham, baćkam biełaruskaha sučasnaha nacyjanalnaha adradžeńnia. Šypiła — heta pieršy praktyčny pioner, pačynalnik henaha adradžeńnia.

1.XII.1934. a hadz. 8-aj u kaściele śv. Mikałaja ŭ Vilni za supakoj dušy praf Br. Epimach-Šypiły Ks. V. Hadleŭski adpraviŭ žałobnaje nabaženstva.

8.XII. sioleta u češć pamioršaha praf. Br. Epimach-Šypiły, u zali Biełaruskaha Instytutu Hasp. i Kultury adbyłasia žałobnaja akademija, jakuju adkryŭ pramowaj staršynia Instytutu Ks. V. Hadleŭski, padčorkivajučy vialikija dla biełaruskaj spravy zasłuhi praf. Šypiły i prapanujučy ŭšanavać pamiać vučonaha biełarusa paŭstavańniem z miajscoŭ.

Paśla hetaha Ks. Ad. Stankievič pračytaŭ ab Šypile referat, z źmiestu jakoha karystalisia my pišučy hety artykuł, a paśla referatu dzialilisia z prysutnymi na akademii svaimi ab Šypile ŭspaminami: inž. L. Dubiejkaŭski, St. Stankievič, M. Piaciukievič, J. Zianiuk, Dr. J. Stankievič, M. Klim i Ks. V. Hadleŭski.

---

13 listapada sioleta ŭ Novaj Vialejcy kala Vilni raptoŭna pamior 65-letni **Pratajerej T. Uładzimierski.**

Niabožčyk, pracujučy jak pastyr siarod biełaruskaha sialanstva i budučy ŭtalentavanym muzykaj, źviarnuŭ uvahu i na biełaruskuju narodnuju pieśniu. Apracavaŭ jon dla choru kala dziesiatka biełaruskich narodnych melodyjaŭ i napisaŭ muzyku da dvuch vieršaŭ biełaruskich paetaŭ. Zadumana była niabožčykam narodnaja siuita dla choru á capella na melodyju biełaruskich abradavych pieśniaŭ; adnak, biazžałasnaja śmierć abarvała jaho žyćcio i nie dała ździejśnić zadumanaha namieru.

---

Unočy z 17 na 18 śniežnia 1934 h. ŭ Litoŭskaj klinicy ŭ Vilni pamior ad chvoraści serca śviatoj pamiaci **Albin Stepovič,** rodny brat viedamaha paeta i filozafa Kaz. Svajaka (Ks. Kast. Stepoviča), taksama ŭžo niabožčyka.

Radziŭsia A. Stepovič u Śviancianščynie, u 1894 h. Navuki ahulnyja i specyjalnyja (muzyka) prachodziŭ u Vilni i ŭ Kazani. Dla biełaruskaj spravy pracavaŭ jon spačatku jak vučyciel Vilenskaj Biełaruskaj Himnazii, supracoŭnik, a paśla i vydaviec „Biełaruskaj Krynicy", staršynia Vilenskaha Addziełu Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury, sekretar Centralnaha Uradu taho-ž Instytutu, vice-staršynia CK BChD i pasoł u sojm ad imia tej-ža BChD (1928—1930), supracoŭnik šmatlikich biełaruskich i niebiełaruskich časapisaŭ u kraju i zahranicaj, zakładčyk i ŭčaśnik volnych dyskusyjnych viečaroŭ, viedamych jak „Piatnicy", kiraŭnik Biełaruskaha Kaścielnaha Choru ŭ Vilni i ŭreščie siabra Bieł. Nacyjanał-Sacyjalistaŭ. Apošnim časam šmat jon pracavaŭ jak kampazytar, układajučy pieśni i pišučy da ich słovy. U halinie biełaruskaj muzyki A. S. skłaŭ plan vydaviectva biełaruskich narodnych i kaścielnych piesieńnikaŭ. Z hetaha planu niabožčyk paśpieŭ vykanać tolki častku: apracavaŭ pieršy tom, jaki ŭžo navat zdadzieny ŭ druk.

Pachoviny śp. p. Albina Stepoviča adbylisia dn. 19 śniežnia z Kaścioła śv. Mikałaja na mohiłki Rossa. Załobnaje nabaženstva adpraviŭ Ks. A. Stankievič. U pachodzie i ŭ samych pachovinach prymała ŭdzieł vialikaja hramada Vilenskich biełarusaŭ i naahuł znajomych niabožčyka. Na mahiłcy A. S—ča, pobač z mahiłkaj Kaz. Svajaka, Ks. V. Hadleŭski skazaŭ pramovu. Złažany byli na mahiłu miž inšymi tak-ža vianki z biełaruskimi šarfami ad Centralnaha Uradu Bieł. Instytutu Haspa-

darki i Kultury, dzie niabožčyk byŭ sekretarom, i ad Vilenskaha Biełaruskaha Kaścielnaha Choru, katoraha niabožčyk byŭ zakładčykam i kiraŭnikom i katory pravodziŭ niabožčyka pieśniami na viečny supačynak.

20.XII. s. h. ŭ čeść śv. p. A. Stepoviča adbyłosia supolnaje žałobnaje pasiedžańnie Centralnaha Uradu i Uradu Vilenskaha Addziełu Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury,



Albin Stepovič.

na jakim staršynia Instytutu Ks. V. Hadleŭski scharakteryzavaŭ postać pamioršaha, jak idejnaha biełaruskaha pracaŭnika, pamiać katoraha ŭsie prysutnyja ŭšanavali ŭstavańniem z miascoŭ i chvilinaj maŭčańnia.

---

Viečny supakoj i viečnaja pamiać słaŭnym pamioršym biełaruskim kulturnym pracaŭnikom!

*j. n.*

**Ад. Станкевіч.**

# Да гісторы беларускага палітычнага вызваленьня. 9)

***З нагоды 70-лецьця сьмерці К. Каліноўскага, рэд. „Мужыкаj Prаўdу“ (†1864) і 50-лецьця „Гоману“ (1884).***

## § 4. Неазаглаўлены артыкул аб нацыянальным пытаньні.

(Працяг).

Асаблівасьць аднак характару кожнага народу, яго эканамічнага і палітычнага палажэньня, кліматычныя і этнографічныя асаблівасьці краю змусілі соцыялізм значна зьмяніць сваю нацыянальную праграму. Нават сам Бакунін, сьпярша крайны вораг нац. пытаньня, у канцы канцоў прызнаваў у некаторай меры права нацыі. „Всякій народ, точно также, как всякое лицо, есть поневолѣ то, что он есть и имѣет несомнѣнное право быть самим собою. В этом заключается все так наз. національное право“. Нацыянальнасьць — гэта адзін з элемэнтаў разьвіцьця чалавецтва, наскольки адна нацыя не няволіць другой нацыі і наскольки разьвіцьцё гэна служыць матэр'яльным і духовым патрэбам дадзенай нацыі і яе свабодзе. Бяз сьведамасьці сваей асобы ў кожнага чалавека народ быў бы стадай, бяз сьведамасьці сваіх асаблівасьцяў у кожнага народу такой стадай было б усё чалавецтва.

Дзяржаўная цэнтралізацыя, што хоць і штучна зьвязала ўсе дробныя плямёны, аддаляючы такім чынам дужа шкодную для чалавецтва барацьбу гэтых плямён, адслужыла гістарычную службу і ў сваім часе мела сваё апраўданьне. Цяпер-жа, калі плямёны зжыліся між сабой да больш-менш сьведамай салідарнасьці, калі паўсталі нацыі ў сучасным разуменьні, яны ўжо, як асобы, вышлі з пад апекі пут цэнтралізацыі і стараюцца заняць у грамадзкім жыцьці адпаведнае месца, усестаронна і свабодна разьвіваючы сваю індывідуальнасьць. „Всякая нація, как и всякая личность не только имѣет право, но и обязана защищать свою самостоятельность во всем, что не противорѣчить развитію человѣчества вообще и каждой чужой націи в частности. Всякая поэтому нація, как бы она слаба не была, заслуживает полнаго признанія ея самостоятельности“... Дык няслушна цьвердзяць вузкія нацыяналісты, што народ, які ня можа абараніць сваю самастойнасьць, павінна праглынуць іншая нацыя сільнейшая. А мы думаем, што такую нацыю трэба паддзяржаць і даць ёй магчымасьць стаць на ногі дзеля таго, каб свабодна праявіць сябе. Трымаючыся гэткага

пагляду, мы „считаем необходимым энергично защищать Бѣлоруссію, как от польскаго, так и от великороссійскаго насилія...“ Наша бацькаўшчына мае ўсе арыгінальныя асаблівасьці, якія прыдаюць ёй характэрную фізіономію і самым натуральным спосабам высоўваюць яе, як асобную галіну славянскага племя. Яна рэзка рожніцца ад сваіх суседзяў— Вялікарусаў, Палякоў і Маларусаў. Беларускі народ на працягу доўгіх вякоў, зносячы горкі свой лёс ад Палякоў і Вялікарусаў, чуе сваю арганічную лучнасьць і адрожнівае свае інтарэсы ад інтарэсаў польскіх і вялікарасейскіх.

Да ўсяго гэтага трэба прыбавіць, што Беларусь мае сваю асобную мову, якая паводле думкі дазнаных філёлёгаў, мае ў сабе шмат чаго цікавага. „Развитіе языка, конечно, дѣло будущаго, когда сама Бѣлоруссія воспрянет духом, а это главным образом будет зависѣть от ея экономическаго улучшенія. Заботу о нем мы оставляем любителям-бѣлоруссам.

Всѣ эти особенности Бѣлоруссіи дают право на автономную, федеративную самостоятельность в семьѣ других народностей Россіи в будущем...“

Кажуць, што Беларусі, як і іншым народам, для гэтага трэба мець свае гістарычныя традыцыі. Вось-жа Беларусь і гэткія мае, а калі ня гэтулькі і яны не такія слаўныя, як у іншых народаў, дык не бяда. „В Бѣлоруссіі нѣт историческиx традицій славнаго прошлага и ей не приходится рядиться и прикрываться лохмотьями старины — она заживет во имя славнаго будущего и в этом ея преимущество. Народ сгрупируется около той интеллигенціи, которая будет стоять за его насущные интересы, интересы прежде всего экономическіе и на этой почвѣ приходится интеллигенціи заложить фундамент новых традицій, традицій благотворных“.

Але можа народ так забіты, што і не патрапіць і не захоча бараніць сваіх інтарэсаў і карыстацца ў будучай фэдэрацыі аўтономіяй? І гэта не. Беларусы няраз падымаліся ў абарону сваей рэлігіі і проціў гнёту шляхэцтва. Пры Александры І яны пры помачы масавага руху ў Віцебскай губ. і ў інш. прабавалі асвабадзіцца ад паншчыны. Гэта-ж самае яны рабілі пры Мікалаю І; пры надзеле зямлёй яны трэбавалі больш справядлівасьці, былі бунты і экзэкуцыі. Сяньня беларусы так-жа энэргічную вядуць аграрную барацьбу з панамі. А гэная вонкавая прыбітасьць і незараднасьць беларуса — гэта ў яго толькі спосаб, каб скрыць свае думкі. „Всякій бѣлорусс всегда старается показаться простяком и дураком только для того, чтобы вѣрнѣе угадать „тайное“ намѣреніе собесѣдника“.

Пераходзячы да беларускай інтэлігенцыі трэба сказаць, што яна, як прадстаўніца народных інтарэсаў, знаходзіцца „в потенціи“ і што шмат прыдзецца працаваць, каб яна праявілася. Але яна паявіцца з тых слаёў, што стаяць блізка

да народу. Гэная бел.-нар. інтэлігенцыя будзе больш іншых здольная ўзвысіцца да сучасных здабыч агульна-людзкога поступу. „Правда, у нея не будет того безсознательно узкаго націонализма, который называется обыкновенно «духом», — у нея не будет „бѣлорусскаго духа“, — но за то она будет проникнута сознательным народничеством... Насколько бѣлорусская інтеллигенція, при всей своей инертности, заключает в себѣ дѣвственной силы, может служить доказательством огромный процент участников в общественной борьбѣ за лучшіе иделы интеллигенціи в Россіи (Судзиловскій, Ковалик, Исаев, Гриневицкій и масса менѣе извѣстныхъ в борьбѣ партіи „Народной Воли“).

Бліжэйшыя-ж задачы бел. інтэлігенцыі наступныя: яна павінна разьвівацца ўсестаронна, тэорэтычна і практычна. Трэба працаваць для народу і ведаць у якім кірунку. Вялікая розьніца ў тым, ці народнік інтэлігент зьверне ўсю сваю ўвагу на „развитіе бѣлорусскаго языка и на развитіе бѣлорусской народной гордости и сепаратизма, или он выставит на первый план экономическое улучшеніе и политическое развитіе страны... И так, теорія и практика, практика и теорія — обѣ параллельно, обѣ рука об руку.

„При такой постановкѣ бѣлорусскаго вопроса, Бѣлоруссов нельзя было бы назвать сепаратистами, да и самыя условія борьбы настолько сближают Бѣлоруссов с сосѣдями и настолько препятствуют какой бы-то не было замкнутости, что всякія сепаратистическія стремленія становятся рѣшительно немыслимы.

„И так, мы Бѣлоруссы, так-как мы должны бороться во имя мѣстных интересов бѣл. народа и федеративной автономіи страны; мы революціонеры, потому, что, раздѣляя программу борьбы „Народной Воли“, считаем необходимым принять участіе в этой борьбѣ; (с „Нар. Волей“ мы уже связаны традиціами: Гриневицкій, бомбой катораго казнен Александр II, был одним из горячих основателей бѣл. мѣстной фракціи); мы соціалисты, потому что нашей главной цѣлью является экономическое улучшеніе страны на началах научнаго соціализма.

„Вот основныя положенія программы, которыя ясно могли бы опредѣлить отдаленныя цѣли и ближайшую практическую дѣятельность Бѣлоруссов.

„Нынешній историческій момент является найболѣе удобным для пробужденія Бѣлоруссіи, которая при дружной работѣ и борьбѣ нашей интеллигенціи переродится для новой самостоятельной жизни и займет почетное мѣсто среди других федерацій Россіи на началах свободнаго соглашенія с ними“.

Гэта-ж усё асягнецца барацьбой рука аб руку з «Нар. Воляй», каб не драбіць рэвалюцыйных сіл і ня шкодзіць

як для вызваленьня Расеі, так і Беларусі. Беларусы павінны з агульным ворагам змагацца — паводле сваіх здольнасьцяў — хто ў цэнтры, а хто па сёлах Беларусі. —

Гэтак выглядае агульна галоўны зьмест гэнага бязіменнага артыкулу.

Канчаюць „Гоман" рэдакцыйныя ўвагі: — а) праф. Кояловіч цікавіцца „Гоманам": дзе ён выходзіць і хто ў ім працуе. Хто з ім спатыкаецца—павінен быць асьцярожным.

б) Многія артыкулы і корэспондэнцыі не ўвайшлі ў гэты нумар „Гоману". бо або ўстарэлі, або проста да рэдакцыі не дайшлі. Рэдакцыя просіць сваіх супрацоўнікаў пісаць, а асабліва даваць весткі з розных канцоў нашай бацькаўшчыны.

в) Абвестка: прымаюцца ахвяры на пашырэньне выдавецтва „Гоману" і арганізаваньне друкарні. —

---

Гэтым і канчаецца другі нумар „Гоману", аб якім тут вядзецца гутарка.

---

# Śniežań.

12-ty miesiac hodu. U rymlanaŭ – December (10-ty miesiac); franc.— decembre; anhl. — december; niam.—Dezember. U respublikanskim kalendary — Frimaire—miesiac chaładoŭ, jaki kančaŭsia 22 śniežnia pa našamu kalendaru.

U słavianaŭ: starasłavianski nazoŭ – studzień; česki — prosinec, ras. — diekabr; pol. — grudzień; ukr. — hrudeń.

Biełaruski nazoŭ — śniežań—pachodzić ad słova „śnieh", bo ŭ hetym miesiacy zvyčajna ziamla ŭžo pakryta śnieham na praciah usiaje zimy.

U staražytnych rymlanaŭ december byŭ 10-ym i apošnim miesiacam hodu. Zakładčyk Rymu, Romuł, ustanaviŭ dla jaho 30 dzion; paźniej-ža, Numa Pampili—29 dzion. 31 dzień december (śniežań) pačaŭ mieć tolki ad Julija Cezara.

U rymlanaŭ miesiac śniežań byŭ paśviačany Saturnu — bohu ziemlarobstva i pasievaŭ, apiakunu płodnaści ziamli i ŭradžaju. Ad 17 śniežnia praz niekalki dzion u čeść Saturna rymlanie śviatkavali saturnalii. Heta było ŭsieahulnaje viasiołaje śviata, u časie katoraha u rymlanaŭ zanikała ŭsia roźnica klasaŭ i stanaŭ, a bahatyja sadzili za stoł svaich raboŭ i niavolnikaŭ i ŭsłuhoŭvali im na pamiatku daŭniejšaj roŭnaści. A pierad saturnaljami, 5 śniežnia rymlanie śviatkavali luperkalii — u čeść Luperkusa, boha sialan, apiakuna ziemlarobstva i hadoŭli skaciny.

25 śniežnia rymlanie śviatkavali ŭračystaść u čeść boha Niepieramožnaha sonca (Sol Juventis), jakoje ŭznoŭ adradziłasia ŭ svaim śviatle i ciapłyni. Kali-ž u chryścijanstvie raspaŭsiudziłasia śviatkavańnie Rastva Chrystovaha, to dla jaho

byŭ vybrany dzień 25 śniežnia — jak symbol naradzinaŭ novaha śviatła-miłaści. Dziela hetaha ŭ siaredniavieččy Karol Vialiki nazvaŭ miesiac śniežań „Heilmonath' am" — śviatym miesiacam; paźniej jaho nazyvali „Christmonat'am"— miesiacam Chrystusa.

Pačatak novaha soniečnaha hodu paśla samaha karotkaha dnia i słavianie śviatkavali symboličnym śviatam, jakoje pad upłyvam rymskaje kultury atrymała nazoŭ Kalad. Pieražytki hetaha śviata i ciapier zachavalisia ŭ huščach biełaruskaha narodu — dosyć prypomnić tolki ŭsiakija narodnyja abrady na Kućciu i na Kalady, kaladavańnie, śviatyja viečary, symboličnyja hulni maładziežy, kaladnija pieśni i inš.

U m-cy śniežni dzień ubyvaje tolki ad 1 da 21-ha i za hety čas ubudzie na 26 minut. Dzień 21 śniežnia (zimovaje sonca-stajańnie) jość najkaraciejšym dniom u hodzie i maje 7 h. 14 m. Pavodle astranamičnaha kalendara 21 śniežnia kančajecca vosień, a pačynajecca zima. Ad 24 śniežnia dzień pačynaje prybyvać i da kanca miesiaca prybudzie tolki na 5 minut.

Choć na dźvie traciny śniežań pa kalendaru ličycca vasieńnim miesiacam, ale ŭ sapraŭdnaści na Biełarusi jon typovy zimovy miesiac i pa svajej pahodzie padobny da lutaha.

U narodnym kalendary:

Śniežań ziamlu hrudzić, chaty studzić. Śniežań hod kančaje, zimu pačynaje. Suchi śniežań — suchaja viasna, suchoje leta. U śniežni maroz i śnieh vyšej chaty — hod budzie bahaty. U śniežni adkrytaje vucha — letam horača i sucha.

1. (S.s). Navum rozumu vučyć. Kali 1-ha śniežnia pahodna — pahodniaja i rańniaja viasna.

4. Barbara — nočy ŭrvała. Na Barbaru maroz – rychtuj užo voz.

4. (S.s). Barbara mościć, Saŭva (5—XII) ćviaki vostryć, a Mikoła (6 – XII) prybivaje.

6. Da Mikoły dabra nikoli. Zimovy Mikoła kania zahaniaje. Mikoła pravy — pravaja zima i pravaje leta.

17. (S.s). Na Laksieja pakidaj sani, rychtuj kałosy.

24. Kućcia. Na Kućciu šmat zor — uradžaj na hryby.

25. Pačatak Kalad. Pryšli Kaladki — haspadarom paradki. Kaladki — dobryja sviatki, bliny dy aładki. Na Kalady miacielica — na pčoły uradžaj, nieba zornaje — uradžaj na haroch. Na Kalady šaron—chleba vahon. Na Kalady viecier— letam budzie šmat arechaŭ, zornaje nieba — buduć hryby i jahady. Kali 1-šy dzień Kalad ciopły — hod budzie ŭradžajny. Ad Kalad 3 razy piać (3 razy pa 5 tydniaŭ) — pastuški ŭ pole lipiać.

31. Bahataja Kućcia. Śvietłaje nieba — viasioły hod.

U jaki dzień u śniežni pieršy raz idzie śnieh, u toj dzień viasnoju treba pieršy raz siejać haroch. *U. P—ski.*




## ПАДАЮЦЬ СЬНЯЖЫНКІ.

Падае ад раньня
Лёганькі пушок,
Ўсё пакрыў да званьня
Беленькі сьняжок.

І ўсё штораз болей,
Падае на ніз;
Сеў на частаколе,
На галінках зьвіс.

Падаюць сьняжынкі
То-ж зіміцы ўбор,
Беленькі сьцяжынкі,
Бела хатка й двор.

Дзеткі паглядаюць
З хаткі праз вакно —
О, яны чакаюць
Зімачкі даўно.

А. К.

---

# Amiała.

Siarod šerych halin vysokaha dubu, abdziortych vasieńnimi viatrami z apošniaha liścia, zdalok kidajecca ŭ vočy niejki žoŭta-zialony kuścik. Heta kuścik amiały, dziŭnaj i cikavaj raślinki. Raście amiała ŭ nas najčaściej na dubach, lipach, biarozach, sosnach, jołkach, asinach, laščynie, dzikich jabłyniach i jhrušach dy tak vysaka, što i dastać jaje trudna. Žyvie jana kryŭdaj, bo nie starajecca sama dla siabie ab spažyvu, ale karystajecca hatovymi sokami dreva – svajho haspadara. Halinki jana maje drobnyja viłavata padzielenyja; listočki daŭhija, vuzkija, ćviordyja, byccam skuraj pakrytyja, — tryvajuć až 18 miesiacaŭ, zachoŭvajučy svoj śvietła-zialony koler: a dziela taho, što praz uvieś čas tvoracca novyja listočki, kust amiały nikoli svajho pryhožaha koleru nia tracić.

Rana viasnoj, užo ŭ m-cy sakaviku, u kutkoch halinak i pamiž listkami źjaŭlajucca drobnyja žoŭta-zialonyja, pryjemna pachniučyja kvietki. Jahady amiały śpiejuć vielmi pamału, bo až tolki ŭ kastryčniku abo navat u śniežni byvajuć zusim śpiełymi i vyhladajuć tady, jak maleńkija, vialičyni drobnaha harochu, biełyja kulki, napoŭnienyja vielmi klejkim sokam. Hetyja jahadki źjaŭlajucca najbolšym prysmakam. Amiała kormić ich, ale nie darma; musiać jany joj za korm addziakavać, razsiavajučy ziarniatki.

Ziarniaty amiały vielmi ćviordy, niastraŭny i ptuški ich nie jaduć, a vykidajuć, staranna ačyščajučy dziubki ab karu

drevaŭ. Ziarniaty majuć kruhom siabie klejkuju masu, pry pomačy jakoj pryklejvajucca da kary i tady vypuskajuć maleńki kareńčyk. Kareńčyk vydzialaje sok, jaki raźjadaje karu; tvorycca ščełka, u jakoj i razrastajucca kareńčyki. Na druhi hod ziarniatka vypuskaje pieršyja halinki i razrastajecca ŭ kust, jaki žyvie sokami svajho chlebadaŭcy.

Kareńnie amiały zapuskajecca hłybaka, časta da 10 centymetraŭ i vielmi niščać dreva U vialikich lasoch, ułaśniki dbałyja ab zdaroŭje drevaŭ starajucca amiału niščyć, ssiakajučy kusty zimoj, bo tady najlahčej ich zaŭvažyć. U Anhlii, Francyi i Niamieččynie padčas Kaladnych śviataŭ zsiakajuć milijony kustoŭ amiały, a heta dziela taho, što narody hetych krajoŭ vierać, što amiała prynosić ščaście, i prybirajuć jeju svaje pamieškańni, viešajuć pad stolaj, abo nad dźviarami, a dzieci chodziać z bukietami amiały ad chaty da chaty i vinšujuć z Novym Hodam.

U staražytnaści narod Hałaŭ ličyŭ amiału śviatoj raślinaj, asabliva kali jana rasła na dubie. Pad hetakim dubam, na pačatku kožnaha hodu „druidy“ (duchoŭnyja) składali achviary. Dvuch z ich u biełych vopratkach uzłazili na dreva i zrezaŭšy kust amiały załatym siarpom, padavali jaho dvum inšym, jakija składali jaho na biełaje pałatno.

U našym narodzie na amiału mała źviartajuć uvahi, choć jana ŭ peŭnaj miery navat moža pryniaści karyść, bo z jaje jahad vyrablajuć klej na muchi, a liścio, razam z drobnymi halinkami, drobna parezanaje i vysušanaje słužyć jak lakarstva i kuplajecca ŭ apteki.

*L. V—va.*

---

# Z čaho i jak robiacca ałaviki.

Ałaviki vyrablajucca z grafitu, jaki jość badaj-što čystym vuhlom, katory dastajuć z ziamli vialikimi bryłami.

Hetyja grafitovyja bryły raspiłoŭvajuć mašynami na tonkija pruciki (pałački) i paśla ich asadžvajuć u dreva. Užyvajecca da hetaha: buk, cedr, abo specyjalnaha hatunku jałaviec, jaki raście ŭ Amerycy; inšyja drevy da hetaha nia pryhodny.

Dreva pieradusim piłujuć i abrablajuć na drobnyja płaški, u katorych u siaredzinie robiać narezy. U narez kładuć grafit, paśla sklejvajuć płaški i paŭstaje ałovak, jaki jašče źvierchu malujuć.

Kolernyja ałaviki robiać z hliny, abo z gipsu, jaki raścirajuć z adpaviednaj farbaj i, dadajučy humy, robiać pałački, katoryja asadžvajuć taksama, jak grafit.

# Лісты

## ДЗІКУНЫ.

В. Бабр оўня, Горадзеншчына. У ноч з 25 на 26 г. зн. на запускі, вярталася наша моладзь з забавы, якая адбывалася ў суседняй вёсцы Лабакі.

І вось да дзьвюх дзяўчат, якія трошкі адбіліся ад сваіх калежанак, раптам у лесе выскакваюць трох хлапцоў. Друх з іх браты Янка і Пятрук Буд—ко з в. Баброўні, а трэці нейкі прысьцябай пад мянюшкай „Маргель“. Яны ў траіх заступілі дарогу, хватаючы дзяўчат за рукі і крычучы: „Стойце, туды вашу мамачку, мы з вамі хочам трошкі пазабавіцца!“ Што з гэтага вышла-б, каб не надыйшлі хлапцы з суседняй вёскі Бандары, трудна сказаць. Дзікуны спачатку срога прыказвалі надыйшоўшым хлапцом, кіравацца туды, куды ідуць, але калі хлопцы, бачучы дрэнныя намеры такога нямілага спатканьня сярод ночы і лесу з дзікімі выродкамі, паслухалі просьбы дзяўчат і затрымаліся пры іх, дык дзікуны пакіравалі справу інакш, лаючыся на дзяўчат самымі нізкімі вулічнымі славамі, з пагрозай сунучы да твараў кулакі — прыказваючы не крытыкаваць іхных „мілых дзелішак“ — бо „на вясну будзе яшчэ горай“...

Трэба дадаць, што гэтыя самыя красачкі, вырасьлі ў тым садочку, скуль паходзяць паважаныя нашы пісьменьнікі: Краўцоў Макар і Міхась Васілёк і калі пара гадоў ўзад, пад кіраўніцтвам Васілька, спатыкала моладзь новы год з песьнямі, з пажаданьнямі для нашай роднай краіны лепшага заўтра, дык гэты самы Янка Буд—ко, узяўшы качалку і пранік, да чырвані ў твары, барабаніў па ім — стараючыся перашкодзіць шчырай урачыстасьці частцы сям‘і, сьвядомай беларускай моладзі.

Ведаючы, што „Шл. Моладзі“, гэта популярная, шырока вядомая часопісь беларускае моладзі — зьвяртаюся да В. П. грамадз Рэдактара з просьбай, зьмясьціць гэту вестку аб нашых дамарослых „красачках“ чартапалоху.

Хай вестка аб гэтым сумным зьявішчы будзе прасьцярогай для ўсіх. Там, дзе нічога ня творыцца добрага, пачынаюць дзеіць выродкі. Дык сілу і энэргію моладзі ня можна пускаць самапасам: яе трэба ўпрагаць у працу для дабра. А тады ня будзе ані часу, ані месца для ўсякіх бясчынстваў, ад каторых цяпер поўна ўсюды.

Вартаўнік.

**Ад Рэдакцыі:** Зьмяшчаючы гэту карэспандэнцыю на гэты раз не падаём поўнасьцю прозьвішчаў вышэйуспомненых грамадзян, думаючы, што яны прачытаўшы гэтыя рад-

кі, пазнаюць свае памылкі і паправяцца. Калі-ж так не станецца і яны далей сваю паганую работу будуць праводзіць, дык наступны раз пададзём іх прозьвішчы поўнасьцю, клеймячы, як ворагаў усяго беларускага народу, якіх моладзь беларуская павінна выкінуць з свайго асяродзьдзя.

## JAK ŚVIATKAVALI Ŭ UZREČČY DZIEŃ 11 LISTAPADA.

Uzrečča, Zaleskaj voł., Dzisienskaha pav. Jak viedama 11-ha listapada prypadaje polskaje nacyjanalnaje śviata Voś-ža hety dzień pastanaviła adśviatkavać i „Koło Młodzieży Wiejskiej“ u Uzreččy. Dziela hetaha naładžana było pradstaŭleńnie, a paśla pradstaŭleńnia supolnaja viačera. Spačatku ŭsio adbyvałasia pacichu. Paśla adnak, jak dajšło da samahonki“, dyk pačali prypaminać sabie siabry hetaha „koła“ roznyja spory i nieparazumieńni, a ŭ kancy dajšło da taho, što nie ŭstajali i stały i łaŭki, ani ŭvisieli lampy; i vokny nie datrymali, a najbolš dastałasia „prezasu“ „koła“. Što tam rabiłasia, dyk strach hladzieć było.

Voś jak adbyvajucca ŭ nas polskija śviatkavańni. Heta nazyvajecca „vyššaja“ kultura!

P. Ram—čuk.

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**50-тыя ўгодкі сьмерці Вінцука Дунін-Марцінкевіча.** Сёлета прыпадалі 50-тыя ўгодкі сьмерці беларускага нова-шляхоцкага паэта-пісьменьніка,романтыка, Вінцука Дунін-Марцінкевіча. Радзіўся ён у 1807 годзе ў Меншчыне, а памёр у 1884 г. Вучыўся ў Вільні і ў Пецярбурзе на ўнівэрсытэце. Называюць яго Бацькам беларускае камэдыі, бо ён першы пачаў пісаць беларускія сцэнічныя творы. Галаўнейшыя яго творы гэта „Сялянка“ — опэра, „Гапон“, „Вечарніцы“, „Шчароўскія дажынкі“; камэдыі — „Пінская шляхта“ і „Залёты“. Зрабіў ён так жа першую спробу перакладу „Пана Тадэўша“ А. Міцкевіча на беларускую мову.

Чамусьці аднак ніхто сёлета, нідзе, нічагусенькі ня ўспомніў аб В. Дунін-Марцінкевічу, а шкада.

**Судзяць, штрафуюць, безпадстаўна канфіскуюць і дапрашваюць.** 28 лістапада сёлета Віленскі Гарадзкі Суд засудзіў рэдактара „Новага Шляху“ грам. Ул. Казлоўскага за зьмяшчэньне ў № 2(4) рэдагаванае ім часопісі артыкулу «Не зьмяніліся“ на 50 зл. штрафу і на 2 тыдні арышту, стрымліваючы выкананьне прысуду апошняга на 3 гады.

Гэты-ж суд таго самага дня засудзіў рэдактара „Беларускай Крыніцы“ грам. Я. Пазьняка за зьмяшчэньне у №28

„Бел. Крыніцы“ артыкулу п. н. „Ніякі саюзьнік“ на 80 зал. штрафу і на 2 тыдні арышту, устрымліваючы таксама выкананьне гэтага апошняга на 3 гады.

Грам. Ул. Казлоўскі, а так-жа і грам. Я. Пазьняк на судзе ў сваей абароне прадстаўлялі вельмі важныя аргумэнты, якія аднак мала памаглі. Дзеля гэтага абодва засуджаныя падалі апэляцыю ў Акружны Суд.

Даведваемся ад рэдакцыі „Бел. Крыніцы,“ што на 6 сканфіскаваных сёлета нумароў гэтае часопісі, зацьверджаны канфіскаты Акружным Судом толькі на 2 нумары; рэшта зьняты. Як бачым, адміністрацыйныя ўлады перастараліся...

27-га лістапада сёлета сьледчая паліцыя дапрашвала рэд. Яз.Найдзюка ў справе апошняе канфіскаты «Шл. Мол.».

**З „Праменьняў“ — „Калосьсе.“** Рэдакцыйная Калегія часапісу „Праменьні“ пастанавіла зьмяніць назоў часапісу „Праменьні“ на „Калосьсе,“ ні ўчым не нарушаючы намечанага кірунку і характару часапісу.

**Новыя праявы варожых адносінаў латвійскіх уладаў да беларусаў.** У апошнім нумары „Шл. Моладзі“ мы зьмясьцілі кароткі артыкулік аб сучасным цяжкім палажэньні беларусаў у Латвіі. Доказаў гэтага цяжкога палажэньня ў ім тады ўжо не бракавала, а цяпер яшчэ прыбыло. Восьжа ня так даўно латвійскія ўлады забаранілі чытаць і распаўсюджваюць наступныя беларускія кніжкі і газэты: „Kastuś Kalinoŭski“, Mužyckaja Praŭda“ і „ideja Niezaležnaści Biełarusi“ - Ад. Станкевіча, „Навейшая Гісторыя“ Вульфіуса(?!), „Шлях Моладзі,“ „Бел. Крыніцу“ і „Новы Шлях “

**Новы твор Міхася Машары.** Міхась Машара ня сьпіць, а ў меру магчымасьцяў, перамагаючы жыцьцёвыя цяжары, усьцяж піша. На днях закончыў ён драму ў 3-х актах з жыцьця вясковае моладзі п. н. „Лёгкі хлеб.“ Твор гэты пакульшто чакае на выдаўца.

**Беларускае прадстаўленьне.** 12-га студзеня 1935 году ў Вільні ў залі Кансэрваторыі — Конская вул. 1 — адбудзецца беларускае прадстаўленьне, якое ладзіць ведамы беларускі мастак—драматург і паэт грам. Фр. Аляхновіч. Пастаўлена будзе драма ў 1 акце Э. Ожэшко „У зімовы вечар“ і п‘еса Фр. Аляхновіча „Птушка шчасьце.“ Пачатак а гадз. 8-ай, цана білетаў ад 50 гр. да 4 зл. Думаем. што Віленскае беларускае грамадзянства падтрымае імкненьні грам. Фр. Аляхновіча да стварэньня сталага беларускага тэатру, масава прыходзячы на прадстаўленьне дня 12.I.35.

**З студэнцкага жыцьця.** — Дня 9.XII с. г. Агульны надзвычайны сход сяброў Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні выкінуў са сваей арганізацыі за дэструкцыйнашкодніцкую дзейнасьць двух сяброў: Грамыку і А. Смаля. Раней за падобныя-ж паступкі быў выкінуты з ураду БСС студ. Тышкевіч. Рашучая барацьба БСС з варожымі доктры-



621767

намі высока падымае вартасьць беларускага арганізаванага студэнцтва ў ваччу нашага народу.

На месца выкінутых сяброў ураду БСС выбраны студэнты: А. Дасюкевіч, С. Сарока і А. Махонька.

— Дня 15.XII с. г. на лекарскім факультэце Віленскага Унівэрсытэту атрымалі абсолюторыюм наступныя студэнты(ткі) беларусы: А. Гічанянка, Л. Варанавічанка, Я. Малецкі, Ф. Леўша і М. Яцкевіч. Атрымалі так-жа сёлета абсолюторыюм на аддзеле гуманістыкі: Я. Хвораст і Ях. Скурат, на аддзеле гісторыі: Э. Залкінд і Хв. Ільляшэвіч, а на аддзеле прыроды — З. Сініцына. Узрост беларускіх культурных сіл гэта не малая радасьць для ўсяго беларускага грамадзянства і не малая падпора ў нашай вызвольнай барацьбе. Выдавецтва „Шл. Мол.“ асабліва з гэтай прычыны цешыцца, бо паміж абсольвэнтамі ёсьць сябра Рэд. Калегі — Я Малецкі — і жадае ўсім беларускім абсольвэнтам здабыць як найхутчэй дыплёмы і працаваць для дабра бел. народу!

**Ёлачка для беларускіх дзяцей.** Выдавецтва дзіцячага час. „Пралескі“ 13 студзеня 1935 г., а не 9 студ., як было абвешчана, ладзіць у залі БІГіК ёлачку для віл. беларускіх дзетак.

**З выдавецкае нівы.** У канцы сёл. году вышлі з друку і ўжо прадаюцца наступныя новыя беларускія кніжкі:

*„Hołas Dušy“* — кніжка да набажэнства для беларусаў-каталікоў, якую вельмі ўдала ўлажыў Кс. В. Гадлеўскі, а прыгожа выдала Беларускае Каталіцкае выдавецтва. Кніжка, як мы ўжо пісалі, мае апробату арцыбіскупа Ялбжыкоўскага, абымае-ж 320 бачынак невялікага фармату і каштуе 60 гр.

*„Апавяданьні“* — Улад-І-іцкага. У кніжцы гэтай зьмешчаны некалькі апавяданьняў, з якіх асабліва заслугоўвае на ўвагу апавяданьне з глыбокім зьместам аб казаньні ксяндза на тэму міласьці да бліжняга і аб жабрачцы і гумарыстычная „Казка аб кучы грошаў“, пісаная вершам. Выдаўцом гэтай кніжкі зьяўляецца грам У. Знамяроўскі. Мае яна 48 бачын і каштуе 50 гр.

*„Šlacham dziwaŭ i ŭražańniaŭ“* — зацемкі з падарожы ў Рым Кс. П. Татарыновіча. Кніжка напісана жыва і бязумоўна ўзбагаціць беларускую літэратуру ў галіне краяведы. Выдана яна выд. „Chryścijanskaj Dumki“, абымае 72 бачыны і каштуе 50 гр.

*„Сьмерць Кастуся Каліноўскага“* — паэма М. Машары, друкаваная ўжо ў „Шл. Мол.“, выдана грам. грам. Ст. Глякоўскім і Яз. Найдзюком. Кніжка мае 20 бач., з партрэтам К. Каліноўскага. Вокладка прыгожа выканана бел. мастаком П. Сяргіевічам і гарманізуецца з зьместам кніжкі. Цана 25 гр.

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк** **Выдавец Янка Багдановіч**

Centr. Biblioteka Mokslų Akademija



071707

# Usiačyna.

**Śmierć praf. M. Hruševśkaho.** Niadaŭna ŭ Maskvie na ssyłcy pamior viedamy ukrainski vučony, praf. M. Hruševśkyj, jaki ŭvažaŭ za nieabchodnuju patrebu Ukrainska-Biełaruska-Litoŭski Sajuz.

**Novyja adkryćci Byrda.** Viedamy amerykanski vučony padarožnik Byrd niadaŭna spaściaroh, što Arktyčnaja ziamla kala paŭdzionnaha polusu byccam padzielena na dźvie čaści šyrokim pralivam.

— Hieolohi z ekspedycyi Byrda znašli tak-ža novyja abšary ziamli, łučačyja paŭdzionny polus z t. zv. ziamloj Maryi. Byrd raniej dumaŭ što heta byŭ vialiki ladavik, adnak akazałasia, što pad lodam jość ziamla.

**Ci ryby majuć „hołas"?** Marskija padarožniki raskazvajuć vielmi cikavyja viestki ab „hałasoch" rybaŭ. Voś-ža kala vostrava Ceylon, na paŭdni ad Azii, časta možna čuć z pad vady jak-by prycišanyja tony harfy, jakija vydajuć ryby-skarupiaki. U vodach ciopłych staron jość ryba, katoraja ŭ niebiaśpiečnych chvilinach vydaje hołas padobny da kryku. Inšyja ŭznoŭ ryby, jakija budujuć sabie hniozdy, vydajuć hołas padobny da rochańnia. Tak zvanaja ryba „harmata" vydaje huk hadobny da vystrału harmaty.

Huki, hałasy hetych ryb paŭstajuć pry parušańni pancyra.

**Masavyja rasstrely ŭ S.S.R.R.** Niadaŭna niejki Nikołajev zabiŭ z revalveru ŭ Leninhradzie kamunistyčnaha kamisara Kirova, jaki byŭ pravaj rukoj dyktatara SSRR. Stalina. Z hetaj pryčyny kamunistyčnaja ŭłada raspačała žorstki praśled u adnosinach da niekatorych hramadzian i ŭžo rasstralała kala 200 asob, pamiž jakich mnoha biełarusaŭ.

Cikava što robić Liha abarony pravoŭ čałavieka, jakaja dahetul u hetaj spravie masavych rasstrełaŭ nie zabrała hołasu?

**Naharody Nobla.** Sioletniuju naharodu Nobla za pracu dziela supakoju na śviecie atrymaŭ pavadyr anhlijskich sacyjalistaŭ («Labour Party») Artur Henderson, jaki adnačasna źjaŭlajecca staršynioju Kanferencyi dziela razbrajeńnia.

Literaturnuju naharodu za sioletni 1934 hod atrymaŭ italjanski dramaturh Luigi Pirandello.

**Novy rekord u latunstvie.** Amerykanski latun Post niadaŭna padniaŭsia na specyjalna zbudavanym samalocie na vyšyniu 14.630 metraŭ, čym pabiŭ dasiulešni rekord uzlotu na samalocie ŭ vyšyniu.

**Žudasnyja cyfry.** Niadaŭna zahraničnaja presa padała kolkaści achviaraŭ balšavickaha teroru ŭ Savietach. Pavodle hetych dadzienych, u praciahu 4 hod (ad 1918 da 1922) zhinuła ŭ adnych tolki „črezvyčajkach:" 6.000 prafesaroŭ i vučycialoŭ, 8.800 lekaraŭ, 54.000 aficeraŭ, 206.000 žaŭnieraŭ, 105.000 c. palicejskich. 48.000 žandarmaŭ, 12.800 uradaŭcaŭ, 333.000 intelihientaŭ roznych fachaŭ, 192.000 rabotnikaŭ, 815.000 sialan, 1.500 duchoŭnikaŭ, 28 biskupaŭ. Razam 1.782.128 čałaviek.

Pierasyłka płačana ryčałtam.

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Вартаўніку. Карэспандэнцыю, як бачыце, друкуем; нажаль, дзеля нястачы месца, мусілі ўсёж-тыкі яе скараціць. Маем надзею, што незагневаецеся.

А. Жуку. Шчырая падзяка за падмогу і прысланыя матэрыялы, з якіх у меру магчымасьці будзем карыстаць.

Я. Вількоўшчыку. За прысланыя інфармацыі і матэрыялы, а так-жа за добрыя пажаданьні шчырая падзяка.

А. К. Атрымалі, дзякуем і, як бачыце, паправіўшы па крысе будзем выкарыстоўваць.

Маладому Дубку. Атрымалі, як бачыце, ўжо пачалі карыстаць. Адказ Вам пісьмом ужо раз выслалі і хутка вышлем другі раз.

P. Ram — čuku. Vieršy słabyja technična, nie aryhinalnyja i dziela taho nia možam ich drukavać. Z karespandencyi karystajem skaraciŭšy, z pryčyny niastačy miesca. Bolš pracujcie nad saboj.

A Špiry — oviču. Vieršy niavytrymany ŭ raźmiery, ale moža katory-niebudź papraviŭšy nadrukujem, jak krychu budziem mieć bolš miesca Radzim pisać, ale razam i vučycca.

„Bliskomu“ Sumnaje źjavišča — bojki siarod našaje moładzi, adnak nia možam my na kožnuju z ich zvaročvać uvahi i apisvać i dziela taho karerespandencyi Vašaje pakulšto nia vykarystajem

Янку Невуку. Просьбу споўнілі, рэшта ў пісьме.

Я. Ратаю, Я. Кавальчуку, Ігнату Чарнабылю і А. Адзінокаму. Усё вельмі слабое, старайцеся пісаць карацей і лепш апрацоўваць. Радзім больш чытаць прыгожае беларускае літэратуры і заняцца пільней самаасьветай, бо магчыма, што ў прышласьці зможаце быць вельмі карыснымі для нашай бацькаўшчыны.

# ПРЭМІЯ ДЛЯ ПАДПІШЧЫКАЎ „ШЛЯХУ МОЛАДЗІ":

**Хто прышле да 15.III.1935 году падпіску на „Шлях Моладзі" на цэлы 1935 год у суме 2 зл. і 50 гр., той атрымае як прэмію:**

## „Гісторыю Беларусі"

**ПРАФ. УЛ. ІГНАТОЎСКАГА.**

Грошы просім слаць на адрас: Redakcja czas. „Szlach Moładzi": Wilno, ul. Zawalna 1—3, Kartoteka №59, т. зв. „przekazem rozrachunkowym", які можна купіць на кожнай пошце за 1 грош. Перасылаючы такім пераказам грошы да 15 зал. нічога ня трэба плаціць за перасылку.

**Хто да 30.III.1935 г. ня прышле падпіскі на „Шлях Моладзі", або не паведаміць, калі гэта зробіць, таму высылка часопісі будзе абавязкава спынена.**